УДК 821.161.3-1
ББК 84(4Беи)
К12

Серыя «АЗ» — першая кніга паэта — заснавана ў 2010 годзе членам Саюза пісьменнікаў Беларусі паэтам Іванам Васільевічам Бісевым пры фінансавым забеспячэнні «Гомелькотласервіс» на базе школы маладога літаратара УА «Гомельскі абласны Палац творчасці дзяцей і моладзі».

Прадмова
Міхася Башлакова

**Кацюргіна, А.**
К12 Пад ветразем ранку : вершы / Анастасія Кацюргіна; прадм. М. Башлакова. — Мінск : Кнігазбор, 2011. — 60 с. — (Серыя «АЗ»).
ISBN 978-985-6976-60-8.

Гэта першая кніга вершаў студэнткі 2 курса філалагічнага факультэта Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Ф. Скарыны Анастасіі Кацюргіной. Усе яе вершы пра каханне, часам нясмелае і безнадзейнае, а часцей — страснае і апантанае. Але ў яе пачуцця, у яе кахання свае адценні, свае словы і радкі і, можа, таму яе вершы не зблытаеш з вершамі іншых маладых паэтаў.

**УДК 821.161.3-1**
**ББК 84(4Беи)**

**ISBN 978-985-6976-60-8**

© Кацюргіна А., 2011
© Башлакоў М., прадмова, 2011
© Афармленне. ПУП «Кнігазбор», 2011

## Пад ветразем кахання

Гады два таму, займаючыся ўкладаннем кнігі «Маладая паэзія Беларусі», я атрымаў ад маіх землякоў з Гомеля вялікі пакет з вершамі маладых літарататараў. Былі там і вершы Анастасіі Кацюргіной, тады яшчэ школьніцы. Нягледзячы на юнацкую няўмеласць і розныя стылістычныя і тэхнічныя недахопы, яе вершы вылучаліся сярод твораў іншых аўтараў. У вершаваных радках Анастасіі было пачуццё, хваляванне, была душа. Майстэрству вершаскладання можна заўсёды навучыцца, а вось калі не будзе пачуцця, не будзе душы ў вершы, не будзе і паэзіі. Інтанацыя, мелодыка вершаванага радка — гэта даецца Богам… Менавіта за пранікнёнасць і меладычнасць спадабаліся тады мне вершы гомельскай школьніцы.

І вось прайшло не так і многа часу — і на маім стале ляжыць рукапіс першай кнігі вершаў студэнткі 2 курса філалагічнага факультэта Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Францыска Скарыны Анастасіі Кацюргіной. Зборнік называецца «Пад ветразем ранку», хаця, як мне здаецца, тут больш падыходзіць назва «Пад ветразем кахання», бо ўсе вершы маладой паэтэсы прысвечаны самай хвалюючай, самай трапяткой тэме — тэме кахання.

Напэўна, няма ніводнага паэта, у якога б не знайшлося хоць некалькі радкоў, прысвечаных каханню. І гэта зразумела, бо хто з паэтаў не кахаў і хто не пісаў на гэту тэму? Вось і Анастасія першую сваю кнігу вырашыла прысвяціць тэме кахання.

Пісаць вершы пра каханне нялёгка — настолькі гэта асабіста, інтымна, адказна. Раскрыць сваю душу перад чытачом напоўніцу дадзена не кожнаму. У Анастасіі Кацюргіной гэта не проста вершы пра каханне, гэта маленне аб каханні, часам нясмелым і безнадзейным, а часцей — апантаным і страсным Яе лірычная гераіня ўмее самааддана кахаць, умее як бурна праяўляць, так і стрымліваць свае пачуцці. Добра гэта ці дрэнна? Напэўна, добра. Хаця ўсё залежыць ад таго, як гэта выканана аўтарам, як гучыць у паэтычным радку. І калі аўтар піша натхнёна, шчыра, з душой, тады любая тэма становіцца пад'ёмнай. Анастасія Кацюргіна жыве каханнем і ў каханні. І вершы яе сапраўды пранізаны гэтым шчымлівым, светлым пачуццём… Што ж, пажадаем маладой паэтэсе ўдачы і новых творчых адкрыццяў… А жыццё само падкажа, у якім накірунку рухацца аўтару далей…

*Міхась БАШЛАКОЎ*

# І будзе восень

*І. В.*

І будзе восень, мілы, назаўжды…
Дажджоў ўначы халодны шэпт да болю.
І будуць сніцца сны, дзе ўжо ніколі
Ніхто не возьме нашы «гарады».
І золак будзе, полымя і вера,
І палымянай вернасці усход…
Хай будзе восень тыдзень ці на год,
Я ў гэта шчасце вогненнае веру!

# Падары мне восень

Падары мне восень… Я адкрыю сэрца
Ранкам ледзь вільготным з прысмакам зямным
Вогнішчаў. А верыш, мне ўжо здаецца,
З сонцам у абдымках, любы мой, стаім.
На далоні восень лісцікам самотным,
Палымяным, лёгкім… Ён такі ж, як я…
Падарунак, скажаш, можа, ўжо не модны?..
Восень залатая ў шапаткіх гаях…

# Каханаму

Ноч веры, каб пяшчотаю ўзрасці,
І на шляху каханага быць лёгкай.
Рамонкам, што смяяўся і галоўкай
Крануўся, каб лягчэй было ісці
Каханаму, што верыць ў сны і Бога…
Ён нарадзіўся вечнасць адмяраць,
І ісціну ў самоце абіраць,
І ў ноч ісці да сноў майго парога.

## Нараджэнне

Я кахаю цябе, як жанчына кахаць не павінна…
Колькі дзён незваротных я шчасцем
пад сэрцам нашу.
Першародны наш грэх…
разразае яе пупавіну…
Камячком, з цеплынёю, кладзе мне на рукі
Душу.
Я чакала без слёз. Адвучылася верыць
ад болю…
Апантаны жыцця нараджэннем,
дачкой назаве!
Не крычала Душа — станавілася ціха маёю.
Ён мяне цалаваў і разумныя вочкі яе…

* * *

Світае. Моцна пахнуць кветкі.
Ідзе без літасці мой бой.
А мы, ціхмяныя падлеткі,
На ўздыху свежасці сваёй!
І дзе ж чаканая сустрэча,
Што аддаляецца ад нас?
А я жыву і ў гэты вечар,
Як у апошні лепшы час.
І ўсё часцей я сустракаю
Сябе ў самоце забыцця.
Світае. Нешта ўсё чакаю…
Кахання?.. Песні?.. Адкрыцця?..

* * *

Тут аблятае лета маразамі,
Як шчасце паланянкі маладой,
Што боль зап’е калодзежнай вадой,
І просіць за яго пад абразамі…
Там Ён ляціць, звівае ліставей…
Там бой, крывёй напіўшыся, згасае.
І ўжо паўсюль ад краю і да краю
Няма зусім ні лета, ні людзей…

Пад шэпт малітвы ціха плачуць свечкі.
Усхліп Яго на вуснах задрыжыць…
І тчэ яна рукою цяжкай вечнасць,
Каб сэрца нерухомасці вучыць…

* * *

Засмяялася. Лёгкія слёзы
У вясёлку схавалі цябе.
Гэты вечар крамяна-цвярозы
Усміхаецца ў спіну зіме!
Так халодныя сны адлятаюць,
Уяўляецца ветраным пуць.
Да вясны толькі песні злятаюць,
Пацалункі ж на вуснах жывуць!

# Пяшчотная і цёплая

Пяшчотная і цёплая ў далонях
Яе шчака. Кахаць не дазваляй!
І намалюй, як карту, гэты рай,
Каб расквітнелі сумныя бягоні,
І гэтым кветам сэрца палані…
І не кажы ты ўсім: «Яна падмане!..»
…Памерла з тым апошняе жаданне
Ад слёз яе і гулкай цішыні…

## Ты мне казаў: «Ніколі»

«Ніколі»... Як яно гучыць?
Ні пацалункаў, ні сустрэчы.
І не заплач, не закрычы,
Не усміхніся цэлы вечар...
«Ніколі» — з тым не пазнаюць
Жыццё, што стала мне табою...
І толькі сэрца так нясуць
Да алтара, да сноў, да болю...

* * *

І толькі болю высахлыя вочы
Глядзелі ў цемры. Прыкрасці няма.
І хай таму, хто памяць мне сурочыў,
Зноў б’ецца ў шкло гаротная зіма.
Хай прыйдзе ён у сумнае маўчанне,
І п’е ўначы гарбату з назвай «чай».
Хай п’е яго апошняе жаданне,
І хай маўчыць, як ён пры мне маўчаў.
Няхай жывуць яго зямныя вочы,
Глядзяць на свет і дзівяцца жыццю.
Хай гэты сон, які адчай сурочыў,
Пакіне кроплю шчасця пачуццю.

* * *

Вось яны коцяцца, соладка-горкія,
Ягады роспачы. З рук на траву!
Неба задыхае зрэнкамі-зоркамі.
Як там за рэчкаю песні жывуць?
Песні, што роспаччу долу не коцяцца.
Вусны на памяць пяюць цішыню!
Хтосьці пра шчасце зямное клапоціцца.
Я ж Яму Вечнасць над рэчкай пяю…

## Ода пацалункам

І ён цалуе проста, без нагоды,
Далоні, што пяшчотаю баляць.
Якія сэрцу выдумаць прыгоды,
Каб гэту палымянасць апраўдаць.
І толькі вусны… Вусны і далоні…
І мы ў адну зліваемся душу.
Згараю ўся! Цалую твае скроні!
Зноў у кахання літасці прашу!

## Ода восеньскім ранкам

Дымком запахлі валасы:
Дыханне цёплае на скроні…
Чаму тужліва так сягоння
Пяюць пра шчасце? Галасы
Зямное ведаюць: адданых
Закалыхае дзён ладдзя…
Над тонкай памяццю жыцця
Мы паплывём у гэты ранак…

## Цалую

З нямым жаданнем я хаджу
да сонца ў госці.
Цалую кропелькі дажджу
і неба просінь.
Цалую спелы ліставей,
што сэрца просіць.
Каб неба дыхала бліжэй —
цалую восень.
Сняжынку вуснамі лаўлю
з халодным болем,
Што Вас краналася, люблю.
Нічога болей…

* * *

Аблятае задумлівы сад,
Жоўты яблык зрываецца з голля.
Да цябе, як да колішніх страт,
Не дайсці, не даплысці ніколі.

Сіні прыцемак. Сонца ў траве.
Дзень адыдзе за сонны пагорак.
Нехта яблыкі ўночы страсе
Разам з кроплямі жнівеньскіх зорак…

* * *

У шчасце і песні веру. Я з любым…
Зноўку гуляю ў любосць.
Вусны да вуснаў… Сэрца галубіць,
Кружыць мяне маладосць!

Ведаў бы кожны — ноччу прыгожай
Жар трапяткі ахіне.
За агароджаю шэпт асцярожны:
«Любы, цалуй жа мяне…»

Вочы заплюшчыла, доўга чакала,
Доўга гаворку вяла!
Вуснамі цёплымі пацалавала
Ціхенька ў лоб… і пайшла…

* * *

Раскрыю парасон,
Узбуджаная трошкі.
Я цэлы тыдзень сон
Гляджу на змятым ложку.
Як першы снег ляціць…
Перон. Святло вакзала.
Сняжынкаю блішчыць
Імя, што спазнавала!
Чыё? Глытае зноў
Шматкроп’е. Кажаш смела:
— Хай твар зямны любоў
Кладзе на аркуш белы!
— Пячатка для ахвяр!
Смяешся ў процьме. Дзе ты?
Ніхто не цалаваў
Каханку як паэта.
Цягнік халодны крык
Кідае ў твар перону —
І ты, як сон мой, знік
У вусені вагонаў…

* * *

Зноў хтосьці дрыжыць на халоднай паверхні
Жаночай далоні… У сумным тым сне
Ёсць ветраны дах. Сёння толькі павер мне!
Павер, як ніколі не верыў ты мне!
Як вецер шуміць і скрозь пыл замірае!
Так свет пакідала…
— Пастой жа! А я?
— За памяць маю дацалуе другая,
Сягоння самотай пакрыўджаная!
Сягоння…
— А верыш, я іншаю стала!
…Ёсць шчасце пабачыць зямную Вясну!
Увечары плачу, а зранку кахала…
Ды ноч праглядзела… На золку засну…

* * *

Маю руку сціскае вецер.
І пераспелы шэпча гай:
«Ты пацалункамі збірай
Маю душу па гэтым свеце!»
Загіне вера — ўсё адно…
Хай шэпчуць вусны пра расстанне:
Тут нарадзілася каханне,
І хай на іх памрэ яно!..

* * *

А мы з табою з адной нядолі,
Са слоў «ніколі» збярэм наш сон.
На ўлонні лета, бы дзеці болю,
Хаваем шчасце пад парасон.
Пад свой ружовы хаваю ўпотай
На цёплых вуснах тваю душу…
А ты пад чорным — ці адзіноту,
Ці так — хаваешся ад дажджу?..

# У дарозе з табою

Аўтамабілі аднавокія…
Закалыханая ў ладдзі.
Краніся памяццю далёкаю,
Маёй самотаю сыдзі…
Налью я поўны келіх полымя
І намалюю ў восень шлях.
І засмяюся, бы зняволена
Сваёй пяшчотаю ў грудзях…

# Рабінка

Няўжо ўвесь век рабінцы гнуцца?
Павеяў ветрык на шашы…
Ты стаў апошнім самагубцам
Сваёй рабінавай душы!

Ідуць дажджы! Ты не губляйся,
І не шукай другіх мадонн,
І мне сягоння здагадайся
На плечы кінуць паліто…

Давай з табой да позняй ночы
Сваю пацешым маладосць!
Душа казённых слоў не хоча —
Дык пацалуй жа за любосць!

Пакуль раблю я гэта глупства,
Гляджу з табою на шашу!
Ратую там ад самагубства
Сваю жаночую душу…

* * *

Цеплыня сягоння ў хаце.
Без цябе сумую трошкі.
Я з табою буду кошкай,
Што сама з сабою ладзіць.

Што гуляе, там дзе хоча.
Чуе кошка, без падману:
Хтосьці там да хаты крочыць
І збівае снег на ганак…

## Адкажу за яго

Дай паверыць: зямля паспела
На адзін асцярожны крок.
Ты яе незямное цела
Выдумляў, суцішаў, як мог.
І чаму «Не святая!» кажуць.
Толькі мне даражэй за сны.
Будзе поўдзень. Яна развяжа
Тонкі шалік сваёй вясны.
І пакіне звінець усмешку
На развілцы яна. І Бог
Мне падкажа — які ён грэшны,
Мой адзін асцярожны крок…

* * *

Другі, не злічаны мой год,
Шукае ветраны куточак.
Не адпачнуўшы ад прыгод,
Прышлі мне восеньскі званочак!
Мой нечакана-званы госць,
Табе ўсё сэрца ахвярую,
І нашай восені дарую
Сваю зямную маладосць.
Прышлі званочак мне ўначы.
Краніся ўсіх таемных струнак,
Даруй самотны пацалунак!
Мой абяцаны, не маўчы!..

* * *

Мінулае, і ты сканала зноў!
Так вышынёй і прыкрасцю прастораў,
Зямлёю мне адмеранае гора —
Зямную спазнаваць яго любоў!
Мне страшна, так баяцца сноў і страты!
Мне страшна, ды іду на гэты суд.
І Вам, Суддзя, у твар крычу, што тут,
Не Вы адзін, каханы мой, зацяты!
Мы — жонкі, мы — падсудныя бяды,
Шукаем долі, шчасця і пашаны…
Ёсць месца для кахання і нуды,
Суддзя Вы мой, і Вы не без заганы…

* * *

Халодных слоў не разарвеш,
Чужыя сны не дараць спёку.
Бывае так, што ты жывеш,
А ён прадбачаны здалёку.
Ды ў сэрцы свет і хараство,
Яны жывуць сваёй вайною.
Любоў — зямное рамяство,
Пакуль яна — жаданне болю.

* * *

Дазволь мне з рэўнасці адвечнай узысці,
Ўдыхні маўчанне цяжкае, нямое….
Дай выпіць слёз — і я прыйду жывою,
Калі малітвы скончацца… Сыдзі
З гарачых зорак. Апраніся ў слова.
Складзі мне песню белых крылаў зноў.
Перакладзі на мовы ўсе любоў,
І стань маёю некранутай мовай!

## На аркуш белы

*І. А.*

Снег пялёсткаў. Я промням веру,
Не абветраным, маладым.
Чорнай крэйдай на аркуш белы —
Тонкі профіль на белы дым.
Ты з гарачай зірнеш усмешкай.
Дай руку — і па схіле ўніз…
На галінках, ля яблынь грэшных,
Тонкі шалік вясны павіс.
Хай ляцяць наўздагон пялёсткі.
Ашалелы самотны дым.
Дык чаму ж па-зямному проста
Стаць каханаю перад ім?…

* * *

Стала зусім па-зямному
Восені подых збіраць.
Сэрцу не верыла : ў стоме
Так немажліва кахаць…
Верыць, калі не балела.
Плакаць, калі не прыйшло…
Падае вэлюмам белым
Гэта празрыстае шкло…
Стала зусім па-зямному
Верыць — убачу зіму.
Восень сыходзіць на зломе
Самага светлага сну!

* * *

Я сумую па снезе… Толькі снегу няма.
І ніхто яго зранку не просіць.
Зноў сняжынкі прыходзяць — і сыпле зіма
Прывітанне на вечную восень.
Так турбуюць каханых маўкліва ўначы.
Мы з табой, як самотныя птушкі.
Зразумела, аб горкім маўчы не маўчы —
Ўсё адно: пачуццё папялушкі —
Невычэрпная прыкрасць. І з болем, на жаль,
Сустракаюць нас тыя ж пероны…
Клён самотны і змоклы ля шыбы дрыжаў,
І збівалася сэрца да скону
Жоўтых дзён…

# Ода болю

Не вымаўляй:
— Мой боль жыве!
З гарачым жалем быць не трэба.
Цябе цалую — бачу неба
У зрэнках. Боль там для мяне ...
Не вымаўляй…
Вяртаю зноў.
Усхліп каханых вуснаў… Толькі…
— Мой боль, як і мая любоў, —
Палын зямны — таму і горкі…

* * *

Малюю цябе на халодных нябёсах
Я восенню спелай у жоўтай журбе.
Два колеры шчасця, два колеры лёсу…
У марах сваіх я малюю цябе.
Малюнку паверацль аблокі, а болей
Нічога табе падарыць не магу…
І ў восень сыходзіць, пазбаўлены болю,
Як промень надзеі — мой помнік яму!

* * *

Я на Зямлі пакуль яшчэ зямная…
Тваім вачам пяшчотаю малюся.
Руку сціскай! А восень, не турбуйся —
Яе жыццё прыгожа аблятае…
Шчака гарыць і верай палымнее.
Цябе нясу пад вокладкаю сэрца.
Яно баліць, і мне часцей здаецца
Твой боль жыццём, а ліставей — завеяй!

* * *

«Як ты жывеш?» — у восені спытаю.
Аб чым жа сэрца мілае баліць?
(Бо ўчора сніўся). І я таму святая,
Што зноўку без цябе вучуся жыць!
І горыч слёз з самотаю глытаю.
Я сном жыву. І ў шчасці, і ў журбе
Я ўжо не тая, чуеш ты, не тая,
Што непатрэбнай стала для цябе!

* * *

Была любоў, было і ліха.
Мне так казалі: «Ўсё міне!»
І падаў снег так ціха-ціха…
Плыло каханне, як у сне.

Ды час кружыў самотны глобус.
Ў калядны дзень, каля пяці,
Я, пераблытаўшы аўтобус,
Згубіла радасць у жыцці…

* * *

Толькі песні мае пасталелі…
Колькі песень кахання міне.
Ён сягоння на сумных арэлях
Днём зімовым пакіне мяне…
І маўкліваю быць не папросіць
Да кахання прывучаны слых.
Ён напіша мне новую восень
І расстанне да нашай вясны…
Колькі шчасця загоіцца болем,
Колькі песень жыццё праглыне…
Колькі раз яму новай зімою
Не хапаць будзе толькі мяне!

* * *

Кахаць яго таму, што ў сэрца больш не веру,
Што дні мае ляцяць, не ведаю, куды.
Кахаць яго, як сон, як чысты аркуш белы,
Мінулае (ў сумёт), дзе подыхі нуды!
Як каву пачуцця, як здзеклівасць падману,
Як тое, што ў жыцці стварала я сама.
Як тое, чым сама ніколі я не стану,
Як белая мая і лютая зіма.
Кахаць яго тады (бяру на ўздыху смела,
Па нотах, па складах), калі прыходзіць госць
Чаканы. І тады, калі ўсё адбалела.
Чужы, ты мне — чужы! А верыш, так як ёсць,
Кахаць я не магу. Баліць і ныя цела
Ад веры! Клічу зноў, бо клічу на бяду.
І аркуш — ліст для дзён — як снег, кладзецца белы:
«Мяне ты не кахай! Я да Яго іду...»

* * *

Я ў гэта веру — нехта да мяне
Змясціў у сэрцы неацэнны сплаў!
Нашто гаворыш: «Гэта ўсё міне»,
Калі жыццё ў далоні мне збіраў.
Калі цябе паіла я з рукі —
Я не была смяротнай для жыцця.
Нашто цяпер гаворыш: «Снег які!»,
Што сэрца суцішаецца ў грудзях!

## Алёшкава птушка

Турботна. Мяжою абмерана лета.
Я гузікі шчасця збіраю ў руку.
Сустрэну сягоння, сустрэну паэта,
Апошняга, можа, на нашым вяку!

Алёша, вяртайся вайною знямелай!
Я веру у розум, ды жыць не магу!
З Зямлёю зліваюся сэрцам і целам,
Збіваюся, плачу... Крычу на бягу!

То вера за слова бярэцца рукою,
Вачамі, самотай, надзеяй сваёй!
А я застаюся каханай зямною —
Алёшкавай птушкай над Роднай Зямлёй...

* * *

Хай будзе сум, і будзе і снег…
Пах кавы, вершы і парады.
Мне застаецца крок да здрады,
І цісне сэрца гэты грэх…

А мухі белыя за шклом
Зімою кружацца. Не здрадзяць…
Дай я цябе сагрэю ў хаце
Тым снежаньскім сваім цяплом…

* * *

Прыходзяць сны — і вечнасць замірае.
Памяты аркуш вырвецца з рукі.
Мая любоў, без прыкрасці, святая,
Звядзе Маўчання з Болем берагі.
Прачнуцца птушкі. Жоўтае дыханне
Абвесціць восень… Мы з табой былі!..
Адно расстанне — ўсё ж такі расстанне
Двух вандраванняў, злітых на Зямлі.

## Адыходзячым цягнікам

Памяццю стаў твой цягнік ля вакзала.
Снег зарыпеў. Я шаптала ў журбе:
«Кожнай сняжынкай цябе спазнавала,
З кожнай самотнай шукала цябе.»
Быў ты мне соллю, і сонцам, і болем,
Лёгкаю мрояй, што верыць у грэх.
Толькі цягнік пракрычаў: «Аніколі
Болей не выпадзе гэтакі ж снег».
Будуць самотныя мухі кружыцца
З новай халоднаю вераю зноў:
Гэта не спраўдзіцца… Можа, прысніцца?
Можа, без памяці гэта любоў?..

* * *

Без журбы — ўсё адно спачуванне.
Ні аб чым больш мяне не папросіць.
А пасля адыходу кахання
Б’ецца ў хату апошняя восень.

Каля хаты з прагорклым туманам
Я стаю, пасталела ў чаканні.
Дайце выпіць самоту з падманам,
Каб яго пераблытаць з каханнем.

* * *

Не адзавецца рэха болем.
Мой сум схаваўся ў цёплы шаль.
З самотай выспелай ніколі
Не пазнаёмімся, на жаль.
Яна твая. Глядзяць суседзі.
Пад ліхтаром вам ззяе снег.
Ніколі мы ад слоў не з’едзем
У «першародны» гэты грэх…
Маўчала рэха, ныла болем,
Ліхтар самотаю дрыжаў.
І адказаў ты: «Аніколі
Грахоў зямных не паважаў!»
Чакала жонка. Я не плачу!
Мяне адорыш забыццём…
Калі кахалі, гэта значыць,
З табою верылі ў жыццё…

* * *

Для памяці патрэбна пачуццё…
Гляджу на Вас скрозь душны погляд залы.
Душы маёй халодныя прагалы
Глытаюць неспазнанае жыццё!
Не памятаеш? З вераю бязважкай
Кахаю, бы клялася на крыві!
Паабяцай мне больш зямной любві
Не спазнаваць так горка і так цяжка!

* * *

Колькі дзён адышло толькі болем,
Колькі здрадлівых стала надзей!
Зноў самотай працятае «болей
Не шукаю каханых людзей»…
Не лічу аблачыны над хатай,
Бо ў слязах белы промень дрыжаў,
Ціха як! Я марудна, заўзята
Выпіваю астуджаны жаль.
І не клічу былую надзею —
Разгарну на двары цішыню.
Пачакаю, калі прывядзе ён,
Што душою сваёй бараню.
А прачнуся — вунь сонная здрада
Так салодка ляжыць на плячы…
Развітанні — душэўныя страты…
Ты нявернай мяне не лічы!
Не кажы так нікому ніколі!
Я злятаю у вырай надзей…
Колькі дзён адышло толькі болем,
Колькі здрадлівых стала людзей…

# Азірнуся

Азірнуся з усмешкай. Мілы,
Не патрэбна любві зямной!
Я сягоння з табой забыла
Тое вечнае слова «мой».
Толькі б вочы за мной глядзелі —
І самотным не будзе шлях.
Я кахала, магчыма, дзеля
Двух агеньчыкаў у вачах.

* * *

Лёгкі ветрык за лёгкімі зданямі.
Мілы грэшнік за шчасцем. Мой ветраны…
Развітальны мой! Вечны. Быў, светлы мой,
Ты жаночай пяшчотай паранены.
Так, без болю сама развіталася.
Лёгка памяць на шчасце звязала я.
Не турбуе лістота апалая…
Мне так поўна, так светла кахалася…

* * *

Спіць на каленях, цёплы, як дзіця!
Ад цішыні пяшчотай Вас укрыю.
Свавольніца... Як шчасцем пахнуць крылы!
Як палымнеюць вусны ад зліцця
Жыцця са сном і лёгкай веры з болем!
Прачнуцца словы цёплыя ад сну...
— Калі табе я шчасце прынясу?
Цалую так, каб не шаптаў: «Ніколі!»

* * *

Кімсьці добрым сабраны былі
Нашы ранкі ў ружовую рацьл.
Навучы мяне ціха кахаць
З гэтай восенню ўсё на Зямлі…
І лічыць зноўку зоркі ўначы
Будзе вечны над хатай ліхтар…
Падары ты мне шчасце без хмар,
Азірацца без слёз навучы!

* * *

*Р. У.*

Выпіта поглядам шчасце — шчасце
пафарбавана,
Проста і так старанна ў колер Яго вачэй.
Вуснамі цеплыні сны дапівае ранак.
Колькі зямной надзеі ў гэтай крыві цячэ!

Розныя бачым сны. Рознай жывём мілосцю.
Лёгкіх сем тысяч дзён нас развядуць навек.
Проста ( бы як заўжды ) ў марах прыходзьце
ў госці:
Ў сэрцы маім сягоння падае першы снег...

# Ад аўтара

Вось і я стаю на роснай ранішняй сцяжынцы, якая, спадзяюся, прывядзе мяне ў краіну Паэзіі. Я ўдзячна лёсу, што на маім жыццёвым шляху сустрэліся такія шчырыя, добразычлівыя, таленавітыя людзі, як паэты Іван Бісеў, Міхась Башлакоў, Ніна Шклярава, Раіса Баравікова, Мікола Шабовіч, выкладчыкі Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Ф. Скарыны В. К. Шынкарэнка, І. Б. Азарава, Л. П. Кузьміч, Р. У. Серыкаў. Без іх дзейснай дапамогі не было б, відаць, гэтай кнігі. Але асабліва мне хочацца падзякаваць Івану Васільевічу Бісеву, які не толькі дапамагаў сваімі слушнымі парадамі, але і матэрыяльна падтрымаў выданне маёй кнігі. Вялікі дзякуй усім, хто падарыў майму ветразю вецер надзеі…

# Змест

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Кацюргіна** Анастасія Аляксандраўна

ПАД ВЕТРАЗЕМ РАНКУ

*Вершы*

Адказны за выпуск *Г. Вінярскі*
Рэдактар *М. Башлакоў*
Вёрстка *Л. Ваўчок*
Карэктар *А. Башлакоў*

Падпісана да друку 2.02.2011. Фармат 84x100 1/32.
Папера афсетная. Друк на рызографе.
Ум. друк. арк. 2,33. Ул.-выд. арк. 0,88.
Тыраж 200 экз. Зак. 62.

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія № 02330/0131712 ад 12.05.06.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка
ў друкарні ААТ «Аргбуд».
Ліцэнзія № 02330/0494197 ад 03.04.09.
Вул. Казінца, 6, 220099, Мінск.